# СТРАТЕГИЧЕСКАЯ ТЯЖБА



№10, 2014

ИНФОРМАЦИОННО-АНАЛИТИЧЕСКИЙ БЮЛЛЕТЕНЬ
**ГОМЕЛЬСКОГО ЦЕНТРА** СТРАТЕГИЧЕСКОЙ ТЯЖБЫ


*Гомельский Центр стратегической тяжбы подготовил сборник решений Комитета по правам человека ООН, принятых по жалобам жителей Гомельского региона. Наиболее часто здесь нарушается право на выражение мнения (10 решений), право на ассоциацию (3 решения), право быть избранным на свободных выборах (3 решения), свобода от дискриминации (2 решения) и право на мирные собрания (1 решение).*




## Издан сборник решений Комитета по правам человека

**Руководитель Центра Леонид Судаленко, который оказывает помощь в защите гражданских и политических прав на международном уровне отмечает систематический характер нарушений прав человека в регионе на мирные собрания и как следствие на свободу выражения мнения.**

Только с Гомельского региона в Женеве ожидают рассмотрения ещё около трёх десятков жалоб.

Разве может считаться нормальной ситуация, когда, скажем, для возложения венков к могилам жертв сталинских репрессий действующие власти обязывают граждан получить у них предварительное разрешение, требуя оплатить из своего кармана услуги милиции, скорой помощи и службы по уборке территории? Для достижения какой цели гомельские чиновники, например, преследуют моего коллегу Василия Полякова, который осмелился возложить к могиле венок памяти без их разрешения?", – задаётся вопросами Судаленко.
"В настоящее время Комитет по правам человека ООН зарегистрировал свыше 150 индивидуальных сообщений из Беларуси, в которых граждане утверждают о нарушении их прав и свобод. По 55 из них уже приняты решения, однако государство не спешит и наоборот уклоняется от обязанности публиковать их на официальном уровне, как того требуют международные обязательства нашей страны", – приводит статистику правозащитник.

Он уверен, что "проблемы с правами человека не исчезнут, если их просто замалчивать. Публикация и распространение конкретной информации о состоянии дел с правами человека приблизит день, когда спецслужбы, например, перестанут тайно следить за гражданами, снимая их на видео, а судье будет стыдно просматривать это видео с теми, кто возлагает венок, привлекая их к штрафу, равному среднемесячной заработной плате по стране."

**Паводле gomelspring.org,**
**Падрыхтаваў Алесь ЛЕТА,**
**Беларускі Праўны Партал**
**www.prava-by.info**





ИНФОРМАЦИОННО-АНАЛИТИЧЕСКИЙ БЮЛЛЕТЕНЬ ГОМЕЛЬСКОГО ЦЕНТРА СТРАТЕГИЧЕСКОЙ ТЯЖБЫ

# На что жалуются белорусы в ООН?

**Центр стратегической тяжбы в Гомеле — это организация, где помогают обжаловать решения белорусских судов на международном уровне, где работают для будущего белорусского правосудия и консультируют в юридических вопросах.**

— Стратегическая тяжба, — объясняет руководитель центра правозащитник Леонид Судаленко, — это судебное разбирательство, цель которого — не сиюминутный и локальный результат, а масштабные социальные изменения в государстве.




У наших сограждан немного возможностей обжаловать решения белорусской Фемиды. Мы, в частности, не можем жаловаться в Европейский суд по правам человека, потому что РБ не представлена в Совете Европы и не ратифицировала Европейскую конвенцию о правах человека.

Комитет ООН по правам человека с офисом в Женеве — единственная международная структура, где белорусы могут попытаться «найти правду».

**Как это работает?**
Центр действует в Гомеле с 2007 года. За это время в Комитет ООН по правам человека было направлено более 70 жалоб. Прошли регистрацию половина из них. Регистрация означает, что комитет принял к рассмотрению и направил правительству Беларуси для получения комментария. Позитивный для подателя иска итог — это рекомендации правительству Беларуси от Комитета ООН по приведению национального законодательства в соответствие с международными обязательствами страны.

Однако, чтобы дело было рассмотрено комитетом, нужно знать всю бюрократическую цепочку предварительных действий.

Довольно часто люди, считая свой приговор необоснованным, обжалуют его в вышестоящей инстанции, получают отказ и опускают руки: не хотят терять время и нервы. Однако необходимо помнить: если вы надеетесь найти справедливость в международной структуре, необходимо пройти все инстанции национального правосудия.

Второе, что нужно учесть, это многочисленные бюрократические тонкости регистрации жалобы в Комитете ООН. Чтобы сократить время на изучение нюансов, стоит обратиться в гомельский центр.

**Почему жаловаться нужно?**
Потому что «капля камень точит», образно резюмирует Леонид Судаленко.

До 2008 года из Беларуси в Комитет ООН по правам человека обращались крайне редко: в среднем, одна жалоба в год. И в рамках международных дискуссий о нарушении прав человека в Беларуси спрашивали: если так много нарушений, почему же так мало жалоб?

С появлением гомельского центра ситуация изменилась: в 2012 году Беларусь даже была среди стран — лидеров по количеству жалоб, принятых к рассмотрению Комитетом ООН по правам человека.
На что жалуются белорусы? На нарушения свободы слова, гражданских и политических прав, на нарушения в ходе судебных разбирательств.

К примеру, в 2006 году у кандидата в президенты А. Милинкевича конфисковали четверть всего тиража предвыборных листовок. Напечатаны они были за счет ЦИК, то есть за деньги налогоплательщиков. Напечатаны, конфискованы и уничтожены.

По итогам рассмотрения жалобы Комитет ООН признал в этом факте наличие дискриминации в ярко выраженных политических мотивах и нарушение права на участие в выборах.

На что белорусы не жалуются? На вопросы, связанные с экологией, констатирует Леонид Судаленко.

**Обратиться за консультацией можно сюда: тел. +375(0232)717109; +375(29)6547011**

**У центра есть своя интернет-страница http://litigation.by/**

**Паводле Юлія Рымашэўская**
**Падрыхтаваў Алесь ЛЕТА,**
**Беларускі Праўны Партал,**
**www.prava-by.info**





ИНФОРМАЦИОННО-АНАЛИТИЧЕСКИЙ БЮЛЛЕТЕНЬ ГОМЕЛЬСКОГО ЦЕНТРА СТРАТЕГИЧЕСКОЙ ТЯЖБЫ




# Праваабаронцы нагадалі суддзям аб правах чалавека

**Гомельскі цэнтр стратэгічнай цяжбы вырабіў і накіраваў у адрас канкрэтных суддзяў зборнікі і асобныя брашуры з рашэннямі Камітэта ААН па правах чалавека, а таксама з папярэднімі ім рашэннямі нацыянальных судоў па парушэнні правоў чалавека, якія мелі месца ў гомельскім рэгіёне. Акцыя прымеркавана да Дня беларускай Канстытуцыі.**

Умяшальніцтва ў дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў (3 рашэнні), парушэнне правоў на распаўсюд інфармацы (9 рашэнняў), на мірныя сходы (1 рашэнне), на справядлівыя выбары (2 рашэнні), на свабоду ад дыскрымінацы (2 рашэнні) - столькі разоў жыхары Гомельскага рэгіёну з дапамогай цэнтра стратэгічнай цяжбы атрымлівалі перамогі ў Камітэце па правах чалавека. Яшчэ звыш 40 скаргаў з рэгіёну прайшлі тут рэгістрацыю, па іх вядзецца камунікацыя з беларускім урадам.

**Кіраўнік цэнтра Леанід Судаленка адзначае, ўрад нічога не робіць для выканання рашэнняў Камітэта, лічачы іх просты рэкамендацыяй. Праваабаронца распавядае, яму нават прыйшлось дайсці да Вярхоўнага суда, патрабуючы выканаць адно з рашэнняў Камітэта, аднак судовая сістэма палічыла рашэнне Камітэта па правах чалавека не абавязковым для выканання.**

"Можна бясконца доўга весці дыскусію аб узроўні выканання правоў чалавека ў нашай краіне, аднак наўрад ці хтосьці стане адмаўляць той факт, раз краіна прызнала кампетэнцыю Камітэта, значыць абавязаная выконваць прынятыя там рашэнні. Усе іншыя развагі на гэтую тэму не вытрымліваюць у аб'ектыўнага назіральніка ніякай крытыкі і знішчаюць саму сутнасць правоў, гарантаваных беларускім грамадзянам", - выказвае пазіцыю юрыст.

"Суддзі, якія выносілі рашэнні насуперак норм міжнароднага права дзякуючы нашай ініцыятыве даведаюцца аб ацэнцы іх прававаой кампетэнцыі, пастаўленай гэтым аўтарытэтным міжнародным органам", - адзначае другі прадстаўнік цэнтра, каардынатар праграм Васіль Палякоў.

Каардынатар адукацыйных праграм Мікалай Новікаў лічыць, нашай судовай сістэме не сысці ад практыкі Камітэта па правах чалавека.

"Беларусь увайшла ў саюз з краінамі, дзе судовыя сістэмы ўжо адносна даўно працуюць з міжнароднай практыкай у галіне правоў чалавека і вядома ж будзе вымушана ўлічваць, у тым ліку і практыку сваіх бліжэйшых саюзнікаў у гэтай галіне. Чым раней беларускія суддзі пачнуць працаваць з міжнародным правам, тым хутчэй мы пазбавімся ад таго кляйма, якое нам паставіла міжнародная супольнасць", - падводзіць рысу вучоны.

**Нагадаем, ААНаўская сістэма абароны правоў чалавека для грамадзян Беларусі з'яўляецца адзінай магчымасцю абароны правоў на міжнародным узроўні. Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, грамадзяне якой не маюць магчымасці скардзіцца ў Еўрапейскі Суд па правах чалавека.**

На гэты час у Камітэце ААН па правах чалавека прайшлі рэгістрацыю 156 індывідуальных скаргаў з Беларусі, у якіх грамадзяне заяўляюць аб парушэнні іх грамадзянскіх і палітычных правоў. У 56 выпадках устаноўлены парушэнні, аднак ні адно з гэтых рашэнняў не выканана, ўрад ігнаруе іх, адпаведна, тэма парушэння правоў чалавека ў нашай краіне працягвае гучаць на міжнародным узроўні.

http://litigation.by/·

**З'явілася афіцыйнае рашэнне на рускай мове Камітэту па правах чалавека ААН па скарзе старшыні Гомельскай абласной арганізацыі Беларускай партыі левых "Справядлівы мір" Уладзіміра Сякеркі на забарону правядзення ў Гомелі ў снежні 2007 года мітынгу ў знак нязгоды з адменай льготаў усяму насельніцтву краіны. Адпаведнае рашэньне КПЧ ААН ад 28 кастрычніка 2013г. ёсьць у Інтэрнэце ўжо на расейскай мове.**

# Камітэт ААН прапануе перагледзяць закон аб масавых мерапрыемствах

У Камітэт ААН Уладзімір Сякерка паскардзіўся пасля таго, як не знайшоў абароны сваіх правоў унутры краіны. Гомельскі гарвыканкам забараніў яму, як і іншым 45 актывістам, правесці у абласным цэнтры серыю масавых мерапрыемстваў супраць прыняцця закону аб адмене льготаў усяму насельніцтву, уключаючы дзяцей ва ўзросце да 3-х гадоў. Мясцовыя чыноўнікі запатрабавалі тады ад дэмакратаў аплаціць паслугі міліцыі, камунальшчыкаў ды хуткай дапамогі.

Камітэт па правах чалавека нагадаў, што калі дзяржава накладае абмежаванне на свабоду мірнага сходу, тады ёй варта садзейнічаць ажыццяўленню права, а не шукаць непатрэбныя або неадпаведныя абмежаванні. А паколькі Урад Беларусі палічыў, што толькі забаронай мірных сходаў можна забяспечыць грамадскі парадак і бяспеку, ахову маральнасці і здароўя насельніцтва ці абарону правоў і свабодаў іншых асобаў, то парушыў права заяўніка на свабоду правядзення мірнага сходу паводле артыкула 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

На падставе рашэння Камітэту ААН Урад Беларусі мусіць забяспечыць «ахвяры парушэння эфектыўны сродак прававой абароны, уключна з поўным пакрыццём выдаткаў і належнай кампенсацыяй», а таксама абавязаны «не дапускаць падобных парушэньняў у будучыні». Акрамя таго, беларусія ўлады абавязаны «змяніць нацыянальны Закон аб масавых мерапрыемствах і практыку яго прымянення такім чынам, каб забяспечыць кожнаму права на свабоду правядзення мірных сходаў».

Прынятае рашэнне Урад Беларусі павінен быў апублікаваць на расейскай і беларускай мове ў афіцыйных СМІ і выканаць яго цягам 180 дзён.

На жаль, да сённяшняга дня гэтае рашэнне застаецца без увагі з боку дзяржавы.

**http://litigation.by/**



# Приговоренный к расстрелу Александр Грунов подал жалобу в ООН

**В Комитете ООН по правам человека зарегистрирована жалоба от имени Александра Грунова, жителя Гомеля, приговоренного к расстрелу.**

Напомним, 8 апреля Верховный суд оставил в силе приговор в отношении 26-летнего жителя Гомеля, приговоренного областным судом к смертной казни за убийство студентки Натальи Емельянчиковой. Это было уже второе рассмотрение дела Александра Грунова в Верховном суде. Во время первого смертный приговор Гомельского облсуда был отменен, а дело направлено на пересмотр.

Жалобу в Комитет ООН по правам человека готовил правозащитник, участник кампании "Правозащитники против смертной казни" Леонид Судаленко.

*"В соответствии с правилами Комитета ООН по правам человека, белорусским властям была направлена просьба не приводить в исполнение смертный приговор, вынесенный в отношении Грунова, пока его дело находится на рассмотрении комитета. Жалобу же Комитет ООН по правам человека может рассматривать до трех лет", - сообщил БелаПАН правозащитник.*

**http://litigation.by/**

# Рубцоў абскарджвае ў Камітэце ААН арышт за "Дзяды-2013"

**Жыхар Гомеля Юры Рубцоў звярнуўся са скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека. Актывіст сцьвярджае, што беларускія ўлады, арыштаваўшы яго на трое сутак з-за адмовы зняць футболку з надпісамі "Лукашэнка, сыходзь!" падчас шэсця ў дзень памяці "Дзяды" ў Мінску парушылі яго правы, гарантаваныя артыкуламі 9, 14, 19 і 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.**

Нагадаем, 3 лістапада падчас шэсця ў дзень памяці "Дзяды" ў Мінску АМАПаўцы запатрабавалі ад Юрыя Рубцова зняць футболку з надпісамі "Лукашэнка, сыходзь!", "Чатыры разы прэзыдэнт - не! Гэтя ня прэзыдэнт, а ЦАР - самазванец". Прапаршчык Віталь Піліпейка потым у судзе заявіў, што "гэтыя надпісы былі выстаўленыя на ўсеагульны агляд і маглі выклікаць негатыўныя наступствы".

Паводле сведчанняў у судзе траіх сведак з боку Рубцова, яго брутальна запіхнулі ў мікрааўтобус невядомыя асобы ў цывільнай вопратцы без апазнавальных знакаў.
"У судзе супрацоўнікі міліцыі хлусілі, заяўляючы аб тым, што я "адмовіўся перасьледваць ў службовы аўтамабіль, вырываўся, хапаў іх за вопратку". Судзьдзя Савецкага раёну Мінска Дзмітры Паўлючэнка паверыў двум амапаўцы, мяне і траіх грамадзянскіх сведак суд назваў хлусцамі", - кажа Ю. Рубцоў.

Праваабаронца Леанід Судаленка, які дапамагаў актывісту вычарпаць усе ўнутраныя сродкі прававой абароны і дапамог падрыхтаваць адпаведную скаргу ў ААНаўскі Камітэт лічыць, што беларускія ўлады затрыманнем і арыштам жыхара Гомеля засведчылі сваё стаўленне да правоў чалавека - адвольнае затрыманне, парушэнне правоў на свабоду і асабістую недатыкальнасць, на ўдзел у мірным сходзе і як следства на свабоду выказвання меркавання.

**gomelspring.org**

# Прафсаюзныя актывісты паскардзіліся ў ААН на парушэнне свабоды мірных сходаў

**3 мая кіраўнік гомельскага аддзялення незалежнага прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Віктар Казлоў разам з намеснікам старшыні гарадской прафсаюзнай суполкі Анатолем Паплаўным накіравалі скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Заяўнікі лічаць, што іх правы на свабоду мірных сходаў і выказванне меркаванняў, прадугледжаныя артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, былі парушаны беларускімі ўладамі.**

16 жніўня 2013 года Віктар Казлоў і Анатоль Паплаўны звярнуліся ў Гомельскі гарвыканкам за дазволам на правядзенне ў абласным цэнтры вулічнага шэсця супраць пастановы ўрада, звязанай з адменай аплаты бальнічных лістоў бацькам, якія выхоўваюць дзяцей. Гарадскія ўлады масавае мерапрыемства не дазволілі. Усе суды – раённы, абласны, Вярхоўны, дзе абскарджвалі дадзенае рашэнне прафсаюзныя актывісты, сталі на бок уладаў.

У скарзе ў Камітэт па правах чалавека ААН заяўнікі звяртаюць увагу, што ў амаль 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне, згодна рашэнню гарвыканкама, павінны яшчэ і заплаціць — міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам.
Віктар Казлоў і Анатоль Паплаўны лічаць, што РБ не выконвае свае міжнародныя абавязкі, паколькі нацыянальны закон «Аб масавых мерапрыемствах» утрымлівае двухсэнсоўныя і расплывістыя нормы, якія могуць тлумачыцца і тлумачацца па-рознаму. Яны просяць Камітэт ААН устанавіць факт парушэння іх правоў з боку дзяржавы і параіць беларускаму ўраду прывесці закон «Аб масавых мерапрыемствах» у адпаведнасць міжнароднымі абавязкамі.
Напамятаем, восенню таго года Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне па скарзе старшыні Гомельскай абласной арганізацыі Беларускай партыі левых "Справядлівы мір" Уладзіміра Сякеркі на забарону правядзення ў Гомелі мітынгу ў знак нязгоды з адменай льготаў усяму насельніцтву краіны.

На падставе гэтага рашэння Камітэту Урад Беларусі мусіць у тым ліку «змяніць нацыянальны Закон аб масавых мерапрыемствах і практыку яго прымянення такім чынам, каб забяспечыць кожнаму права на свабоду правядзення мірных сходаў».

**gomelspring.org**

# У Гомелі суддзі вымушаны працаваць з стандартамі правоў чалавека



*Суддзі Гомельскага абласнога суда Аляксандр Сужаеў і Алег Харошка пакінулі без задавальнення скаргі мясцовых актывістаў Уладзіміра Шыцікава і Змітра Карашкова на пастановы судоў першых інстанцый аб штрафах за парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў. У абодвых выпадках суддзям прыйшлось імплементаваць стандарты правоў чалавека ў нацыянальную судовую практыку. Што з гэтага атрымалася глядзіце ніжэй.*

**Прававая пазіцыя заяўнікоў**

“Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя яе міжнароднымі абавязацельствамі.

**Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека абвяшчае права кожнага чалавека на свабоду мірных сходаў і свабоду выказвання сваіх перакананняў. Міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах прызнае права кожнага на свабоду выказвання свайго меркавання і свабоду мірных сходаў”.**

“Нават калі суды палічылі, што мы парушылі усталяваны парадак правядзення мірных сходаў, у такіх выпадкая яны абавязаны былі ацаніць дадзеныя факты зыходзячы з патрабаванняў артыкула 23 Канстытуцыі і артыкула 21 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх ды палітычных правах, а менавіта, чаму абмежаванне нашых правоў у дадзеных канкрэтных выпадках неабходны ў інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб”.

“У адсутнасць якіх-небудзь абгрунтаваных тлумачэння ў судоў, якія апраўдваюць іх высновы, лічым, што абмежаванне правоў у дадзеных выпадках з'яўляецца недапушчальным па сэнсу артыкула 21 Пакта, бо не адпавядае выкладзеным ў ім агульным інтарэсам”, - паскардзіліся ў абласны суд актывісты.

**Прававая пазіцыя суддзяў**

“Довады скаргі аб парушэнні права на мірны сход нельга прызнаць абгрунтаванымі, паколькі рэалізацыя такога права ажыццяўляецца грамадзянінам у адпаведнасці з усталяванай законам працэдурай, што замацавана нормамі міжнародных пагадненняў і нацыянальнага заканадаўства.

У той самы час як Уладзімірам Шыцікавым рэалізацыя свайго права была дапушчана з парушэннем гэтых нормаў”.

**“У прыватнасці, правядзенне масавага мерапрыемства без узгаднення з органамі выканаўчай улады ставіла пад пагрозу парадак і грамадскую бяспеку ў месцы яго правядзення, што з'яўляецца недапушчальным у сілу нормаў міжнародных пагадненняў і нацыянальнага заканадаўства”, - да такіх высноў прыйшоў суддзя Гомельскага абласнога суда Аляксандр Сужаеў.**

“Довады скаргі пра супярэчнасць абвінаваўчай пастановы Канстытуцыі і нормам міжнароднага права з'яўляюцца беспадстаўнымі", - напісаў у пастанове суддзя Гомельскага абласнога суда Алег Харошка і далей перайшоў да цытавання закона аб масавых мерапрыемствах і адміністрацыйнага кодэксу.

7 стр. >>>



**Прававая пазіцыя Камітэту ААН па правах чалавека**

Разглядваючы беларускія скаргі, калі дзяржава пераследвае грамадзян за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах ці наогул забараняе ў іх правядзенні Камітэт ААН па правах чалавека адзначае:

“Калі нават санкцыі за ўдзел у несанкцыянаваных мірных сходах дапускаюцца нацыянальным заканадаўствам, менавіта дзяржава абавязана кожны раз патлумачыць, чаму яны з'яўляюцца неабходнымі з пункту гледжання адной з законных мэтаў, прадугледжаных у пункце 3 артыкула 19 Пакта і якую небяспеку могуць стварыць несанкцыянаваныя мірныя сходы”.

“Правы і свабоды, выкладзеныя ў артыкуле 21 Пакта, не з'яўляюцца абсалютнымі і могуць падвяргацца абмежаванням у некаторых сітуацыях. Аднак менавіта на дзяржаве кожны раз ляжыць абавязак даказаць, якім чынам на практыцы правядзенне несанкцыянаваных мірных сходаў ушчамляе выкладзеныя ў артыкуле 21 Пакта інтарэсы.

“Калі дзяржава накладвае абмежаванні з мэтай прымірыць права чалавека на свабоду сходаў і выкладзеныя ў артыкуле 21 Пакта агульныя інтарэсы, варта кіравацца мэтай садзейнічаць ажыццяўленню права, замест таго каб шукаць непатрэбныя або непрапарцыйныя абмежаванні да яго. Любое абмежаванне на ажыццяўленне права на мірныя сходы павінны адпавядаць строгім крытэрам неабходнасці і суразмернасці”.

**Каментар праваабаронцы**

Гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка, які дапамагае актывістам бараніць правы на нацыянальным ды міжнародным узроўнях упэўнены, падымаць пытанні міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека перад суддзямі нацыянальных судоў сёння вельмі неабходна.

**„Любое абмежаванне на ажыццяўленне права на мірныя сходы павінны адпавядаць строгім крытэрам”**

Судаленка: “Калі адна чаша вагаў правасуддзя, напоўненая Асноўным Законам краіны і яе міжнароднымі абавязацельствамі, не можа пераважыць пустую чашу вагаў, прыкрытую невядомым сведкам Х., якога суд нават апытаць не спрабуе, гэта праблема нават не суддзі, гэта ўжо праблема ўсёй краіны!”

Праваабаронца падкрэслівае, ў самым хуткім часе беларускім суддзям прыйдзецца вывучаць і імплементаваць у нацыянальную судовую практыку міжнародныя стандарты правоў чалавека і чым хутчэй гэта здарыцца, тым лепш будзе для грамадства і краіны ў цэлым. Беларусь фактычна ўступіла ў мытны саюз з краінамі, грамадзяне якіх ужо сёння абскарджваюць рашэнні нацыянальных судоў у Еўрапейскім судзе па правах чалавека.

Зараз наша краіна, следам за Расіяй і Казахстанам прымярае для сябе стандарты сусветнай гандлёвай арганізацыі. На чарзе міжнародныя стандарты па правах чалавека, - упэўнены праваабаронца.

http://litigation.by/





# Аб арыштах праціўнікаў вайны даведаюцца ў ААН

***Гомельскія актывісты Уладзімір Шыцікаў і Дзмітрый Карашкоў, якія адседзелі 10 і 15 сутак арышту за публічныя пратэсты супраць вайны Расіі ў Украіне падалі скаргі ў Гомельскі абласны і Менскі гарадзкі суды.***

*Арыштанты заяўляюць аб парушэнні іх правоў на свабоду правядзення пікетавання і як следства на свабоду выказвання меркавання, а таксама аб сваім жаданні абскардзіць арышты ў Камітэце ААН па правах чалавека.*

*Нагадаем, 15 сакавіка ў Гомелі каля гандлёвага дому «Рэчыцкі» актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі зладзілі перадвыбарчы пікет.*

*Пасля завяршэння пікету быў затрыманы і асуджаны судом да 10 сутак арышту адзін з ягоных удзельнікаў - гомельскі сябра АГП Уладзімір Шыцікаў. Ён трымаў у руках плакаты з надпісамі: «Пуцінская Расія, ты звар'яцела» і «Бляск рэзідэнцый не ратуе дыктатара».*

*11 сакавіка актывісты "Маладога фронту" з Гомеля Стас Була і Зміцер Карашкоў падыйшлі да расійскай амбасады ў Мінску з плакатамі "Пуцін, рукі прэч ад Украіны" і "Не вайне! Пуцін - вораг".  Суд арыштаваў Зміцера Карашкова на 15 сутак арышту.*

*Праціўнікі вайны не разумеюць, чаму паводле беларускага заканадаўства перад тым як выказаць публічны пратэст супраць вайны яны павінны за 15 дзён папярэдзіць аб гэтым уладу і атрымаць у яе адпаведны дазвол, аплаціўшы папэрэдне са сваёй кішэні паслугі хуткай дапамогі ды санітарнай ачысткі горада.*

**gomelspring.org**

**Информационно-аналитический бюллетень Гомельского Центра стратегической тяжбы**

"Стратегическая тяжба"

**Редактор Алексей Коваль**

**а/я 28, 246003, Гомель. Тираж 299 экз.**

Отпечатано на личном оборудовании.

Распространяется бесплатно.

